**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

№1(613) 5 студзеня 2012 года. Кошт свабодны.



З Новым годам, Беларусь!

## Глыбоцкі раён

# Ах, коні, сапраўдныя скакуны!

■ Чэслаў Якубовіч

**Адной з асаблівасцей Глыбоцкага раёна было і застаецца тое, што тут развіта конегадоўля і досыць паспяхова займаюцца конным спортам.**

Да нядаўняга часу гэтым актыўна займаліся ў сельгаспрадпрыемстве “Залатая падкова”, але цяпер у яго з’явіліся паслядоўнікі. Філіялу сельгаспрадпрыемства “Галубічы” пашчасціла, што ў яго ёсць уплывовы партнёр і шэф – Глыбоцкі мясакамбінат. З дапамогай гэтага прадпрыемства ў гаспадарцы фактычна стварылі сваю коннаспартыўную школу, у якой займаюцца больш дваццаці мясцовых палеткаў. У гаспадарцы думаюць пабудаваць нават закрыты конны манеж. Пакуль жа гадуюць на конеферме 36 прыгожых скакуноў, з якіх 10 коні спартыўных парод. На заняткі па выездцы дзеці прыязджаюць з задавальненнем, бо і ў эпоху суцэльнай аўтамабілізацыі менавіта прагулка на гэтым спрадвечным памочніку і сябру чалавека прыносіць безліч станоўчых эмоцый. Дарэчы, у вёску Каралевічы прыехаць пакатацца на конях за невялікую плату можа любы жадаючы. Такі від адпачынку вельмі папулярны ў Еўропе, актыўна займаюцца конным спортам і ў Расіі. У гэтай вёсцы на Глыбоччыне вучыць жадаючых прыгожа ездзіць і нават скакаць на конях вопытны трэнер Уладзімір Буката. Ён дасканала ведае і любіць сваю справу, бо з конямі праводзіць багата часу, даглядае і сочыць за гэтымі прыгожымі жывёламі. Сам Уладзімір выступае і на рэспубліканскіх спаборніцтвах па выездцы, сярод яго ранейшых падапечных ёсць і два майстры спорту і перспектыўныя наезднікі сярод цяперашніх вучняў коннай школы.

## Мёрскі раён

# А магла і патануць

■ Станіслаў Раманчук

**Напрыканцы мінулага года паўсюдна назіралася рэкордная цеплыня, зіма стала падобнай на “еўрапейскую”.**

Невыпадкова на большасці вадаёмаў вобласці не ўтварыўся сапраўдны ледастаў, а там, дзе лёд з’явіўся, ён быў тонкі і небяспечны для прагулак. Аднак гэты фактар праігнаравала пажылая жанчына з Мёрскага раёна і чамусьці нядзельным вечарам рызыкнула апынуцца на возеры, паблізу мястэчка Язна. У метрах 15 ад берага, пасярод трыснягу,59-гадовая пенсіянерка на падпіткураптам правалілася ў ледзяную ваду. Выбрацца са смяротнай пасткі ёй не было магчымасці, і заставалася толькі крычаць аб дапамозе. На шчасце, такія адчайныя крыкі пачула з боку вадаёма яе зямлячка і адразу выклікала на дапамогу выратавальнікаў райаддзела МНС, абучаных дзейнічаць і ў такіх экстрымальных сітуацыях. На выратаванне чалавека, які мог загінуць, дзяжурны экіпаж прыбыў аператыўна і пачаў адразу дзейнічаць. Выратавальнікі былі адзетыя ў спецыяльных касцюмы і з дапамогай страхуючай вяроўкі дабраліся да прамоіны, з дапамогай сваіх таварышаў выцягнулі сялянку з халоднай вады. У такі перыяд года знаходзіцца ў ёй можна непрацяглы час, паколькі сілы арганізма ледзяны холад забірае хутка. Але на гэты раз усё абышлося добра. На месцы здарэння ўжо былі і медработнікі. Яны даставілі пацярпелую ў мясцовую райбальніцу горада Дзісны з дыягназам “агульнае пераахалоджанне цела”. Стан тэрматраўмы жанчыны быў сярэдняй цяжкасці, але медыкі зрабілі ўсё, каб яна паправілася. Вось толькі навошта было ёй, як і іншым людзям, так рызыкаваць і лезці на лёд, калі ён тоіць смяротльную небяспеку ?

## Пастаўскі раён

# Стрэлы каля крамы

■ Кастусь Александровіч

**Па меры ўзмацнення эканамічных цяжкасцей стаў паўсюдна назірацца рост крадзяжоў маёмасці.**

А ў аддаленай вёсцы Заўлічча Пастаўскага раёна, што непадалёку ад мяжы з суседнімі Докшыцкім і Глыбоцкім раёнамі, у адну з зімовых начэй была зафіксавана няўдалая спроба рабавання сельскага магазіна. Пасля апоўначы, калі вяскоўцы спалі, сюды на аўтамабілі прыехалі злачынцы. З дапамогай свайго аўто яны хутка вырвалі ахоўную металічную рашотку з аднаго акна крамы і пранiклі ўнутр. Але не ўлічылі няпрошаныя “гастралёры”, што гэты магазін быў абсталяваны і сучаснай GSM-сігналізацыяй. Сігнал аб пранікненні ў магазін адразу паступіў на мабільны тэлефон загадчыцы крамы, якая аказалася смелай жанчынай. Не чакаючы прыбыцця міліцыі, яна з мужам на сваім аўтамабілі пад’ехалі да месца здарэння і фарамі асляпілі злодзеяў, якія ўжо занялі пагрузкай скрадзенага. Злачынцы палічылі за лепшае адразу пакінуць месца сваёй няўдалай “экспрапрыяцыі”. Праўда, каб іх не сталі праследваць, яны стрэлілі, як высветлілася потым, з траўматычнага пісталета і ўцяклі пасярод ночы. Ці тое супадзенне, ці проста збег абставін, але ў тую ноч на Віцебшчыне былі абрабаваны дзве вясковыя крамы ў іншых раёнах. А вось у Верхнядзвінскім раёне начны злодзей недоўга радаваўся, што змог скрасці з магазіна гарэлкі і закускі на 2,3 млн. рублёў. Яго таксама выявіла сістэма GSM-сігналізацыя, а потым справай тэхнікі міліцыі было знайсці і затрымаць 35-гадовага злодзея, мясцовага жыхара.



# Лічба нумара

**189%** - такой была ў мінулым годзе дэвальвацыя нацыянальнай валюты, адна з самых сумных і галоўных падзей, якія давялося перажыць беларусам летась. Практычна трохразовае абясцэньванне беларускага рубля разам з вострым валютным крызісам стала адной з галоўных тэндэнцый эканамічнага развіцця Беларусі адышоўшага ў гісторыю года-2011. З цягам часу ўсе людзі забудуцца, як летась долар каштаваў у пачатку года 2900 рублёў, а суайчыннікі перад выбарамі радаваліся павышаным да міфічных 500 долараў заробкам і самыя кемлівыя актыўна закуплялі новыя тавары, смачна елі і радаваліся жыццю.

Праўда, ужо тады настрой многім падпорціла рэзка падаражэўшая да 18 тысяч рублёў/кг грэчка і ў гарадскіх крамах зменшыўся асартымент малочных прадуктаў у сувязі з рэзкім павелічэннем экспартных паставак у Расію. Хто ведаў тады акрамя спецыялістаў, што суайчыннікаў неўзабаве накрыюць проста гіганцкія жыццёвыя цяжкасці і шалёны рост цэн. Аднак, узгадаем, што год назад у пачатку вясны цукар яшчэ каштаваў пасля першага падаражання 3600 рублёў, а алей можна было купіць па 6000 рублёў за стандартную бутэльку. Вось тады і пачаліся спачатку ў сталіцы першыя хапуны тавараў у гандлі, на што нервова адрэагаваў беларускі лідар.

Толькі сляпым не было бачна, што краіна ўвайшла ў эканамічны хаос і напрыканцы мая цэны проста паперлі, імпартныя тавары з паліц крамаў практычна зніклі разам з нават соллю і валютай, якую ўжо немагчыма стала купіць у абменных пунктах. Паліцы і з бытавой тэхнікай айчыннай вытворчасці раптам апусцелі, пакупнікі расхоплівалі ўсё, што можна было купіць. І правільна, бо інфляцыя разгулялася на поўную моц, летам летась у беларускіх магазінах бракавала нават мяса і курыных тушак, танных каўбас, а гарэлка падаражэла тады да амаль 10 тысяч. Толькі мінулай восенню ў нашы крамы, здаецца, вярнуўся ранейшы асартымент тавараў і прадуктаў.

Але ніхто не будзе аспрэчваць, што цэны сталі касмічнымі на фоне афіцыйнай агульнай інфляцыі ў пачатку снежня – болей 107 %. У выніку прадукты харчавання для беларусаў за пражыты мінулы год падаражэлі ў 3 разы. У глыбінцы цяпер дзясяткі прадпрыемстваў і арганізацый, практычна ўся бюджэтная сфера не атрымоўваюць і 200 долараў у эквіваленце ў месяц. І калі для разумных людзей відавочна, што гэта не апраўдала сябе існуючая сацыяльна-эканамічная мадэль развіцця краіны, то высокае начальства думае інакш. З боку ўлады раздаюцца галасы аб нязменнасці правадзімага курсу і непрыняцці ніякіх палітычных рэформ, дэмакратызацыі дзяржаўных інстытутаў і пераходзе да лібералізацыі эканамічных працэсаў.

Тым часам пакупніцкая здольнасць большасці насельніцтва, “рублёвых мільянераў” рэзка зменшылася. На гэты 2012 год ад беларусаў запатрабавалі рост вытворчасці, як і раней, імем рэвалюцыі, хоць у той жа Віцебскай вобласці напрыканцы снежня на складах знаходзілася нерэалізаванай прадукцыі на суму больш 1 трыльёна рублёў. Пры зносе актыўных фондаў на прадпрыемствах вобласці на 90 % яе кіраўнік А. Косінец запатрабаваў сёлета забяспечыць павышаны валавы рэгіянальны прадукт з ростам на 9 % (заданне беларускага ўрада было меншае – 5,7 %). Па існуючай практыцы начальства ў чарговы раз будзе вырашаць надзённыя эканамічныя праблемы шляхам нарошчвання ціску і жорсткіх загадаў зверху аб эканоміі паўсюдна.

Сапраўды, не перавяліся яшчэ аптымісты на зямлі прыдзвінскай! Зрэшты, і на ўзроўні ўрадавым з аптымізмам глядзяць у будучае, бо намячаюць нарасціць экспарт беларускіх тавараў і паслуг у 2,2 разы, выкарыстоўваючы перавагі ад членства ў Адзінай эканамічнай прасторы. Як яно будзе на самой справе далей, не бяромся загадваць, жыццё пакажа, да чаго Беларусь будзе вартая ў наступіўшым годзе. Пакуль жа зазначым, што ў сферы будаўніцтва ўжо сур’ёзныя праблемы. Жыллёвае будаўніцтва рэзка скароціцца на фоне трохразовага падаражэння крэдытаў. Нам усім “свецяць” уведзенне дыферэнцаваных тарыфаў на аплату электраэнергіі па нормах на аднаго чалавека. Як ні сумна, але ў рэальным жыцці не будзе, што цэны вернуцца на той узровень, якімі яны былі летась.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 05.01.12 | | | | Пятніца 06.01.12 | | | | Субота 07.01.12 | | | | Нядзеля 08.01.12 | | | | Пнд. 09.01.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | +1 | +2 | 0 | +1 | 0 | +1 | 0 | +1 | -2 | -1 | -3 | -1 | -2 | 0 | -2 | 0 | -1 | 0 |
| Ціск | 733 | 731 | 728 | 724 | 724 | 727 | 730 | 734 | 737 | 741 | 743 | 742 | 740 | 740 | 741 | 742 | 743 | 744 | 745 |
| Вільготнасць | 82 | 82 | 85 | 86 | 93 | 99 | 95 | 94 | 92 | 83 | 82 | 83 | 86 | 89 | 88 | 93 | 96 | 96 | 90 |
| Вецер м/сек | Ю-З 7 | Ю-З 8 | Ю 10 | Ю 9 | Ю 7 | Ю 5 | Ю 2 | Ю 2 | З 2 | Ю-З 2 | Ю 4 | Ю 5 | Ю 6 | Ю 6 | Ю 5 | Ю-В 4 | Ю 2 | Ю 1 | Ю 1 |
| | | 09:33 | 16:55 | | | 09:32 | 16:57 | | | 09:32 | 16:58 | | | 09:31 | 16:59 | | 09:31 | 17:01 | |
| | | 13:47 | 05:57 | | | 14:28 | 06:58 | | | 15:20 | 07:51 | | | 16:24 | 08:35 | | 17:36 | 09:11 | |

## Дзень за днём

**Кіраўніцтва Беларусі паабяцала ў пачатку 2012 года паслядоўна павышаць даходы насельніцтва, зарплаты і пенсіі, каб людзі болей набывалі айчынных тавараў. Бюджэт Нацыянальнай акадэміі навук А. Лукашэнка на гэты год загадаў урэзаць на трэць. "Беларусбанк" з перапынкам на 2 месяцы аднавіў 5 % крэдыты насельніцтву на льготнае будаўніцтва, але за гэты час кошт кватэр падаражэў на трэць. Нягледзячы на крызіс, рост цэн і эканамічныя цяжкасці, беларусы летась купілі больш за 11 млн. скрынь гарэлкі, яе продаж павялічыўся болей, чым на 19 %.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Кіраўнік МВФ Крысцін Лагард перасцерагла, што ў бліжэйшы час свет можа зноў вярнуцца ў эпоху змрочнай Вялікай дэпрэсіі і крызісу 30-х гадоў мінулага стагоддзя.

**КНДР.** Толькі на 3-я суткі тэлебачанне самай закрытай і напоўгалоднай краіны свету з ракетамі паведаміла аб смерці на 69-м годзе жыцця "вялікага кіраўніка" Кім Чэн Іра.

**Бельгія.** На прайшоўшым у Брусэлі самміце Еўрасаюз – Расія аб'явілі аб пачатку рэалізацыі пакрокавага плану па пераходзе да бязвізавага рэжыму адносін ЕС-РФ.

**Францыя.** Суд прызнаў 79-гадовага экс-прэзідэнта Жака Шырака вінаватым у карупцыі, калі ён быў мэрам Парыжа, у злоўжываннях, прыгаварыў да 2 гадоў зняволення ўмоўна.

**Швейцарыя.** Пасля 18 гадоў перамоў міністэрская канферэнцыя Сусветнай гандлёвай арганізацыі прыняла Расію ў члены СГА, вытворцаў з РБ чакаюць новыя праблемы.

**Расія.** Алігарх Алішэр Усманаў устроіў "разгром" выдавецкага дома "Коммерсантъ" пасля таго, як адзін з яго часопісаў расказаў, як Крэмль сфальсіфікаваў выбары ў Дзярждуму.

**Галандыя.** Галоўны пракурор Міжнароднага крымінальнага суда ААН у Гаазе Л-М. Акампа заявіў, што смерць экс-лідара Лівіі М. Кадафі, верагодна, ваеннае злачынства.

**Украіна.** У эфіры 5 канала першы ўкраінскі прэзідэнт Л. Краўчук заявіў, што ў нязменнага лідара РБ няма будучыні пры цяперашняй эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў Беларусі.

**Люксембург.** У краіне зноў быў летась самы высокі жыццёвы ўзровень нацыі ў Еўропе, на 50 % лепшы, чым у сярэднім па ЕС, у лідарах яшчэ Аўстрыя, ФРГ, Галандыя і Англія.

**Індыя.** На ўсходзе краіны, паблізу горада Калькутты, 102 бедныя індусы загінулі і шмат было шпіталізавана пасля ўжывання і атручэння няякасным падпольным лікёрам.

**Малдова.** Толькі 3 галасоў не хапіла ў парламенце в. а. прэзідэнта Марыану Лупу, каб выйграць выбары кіраўніка краіны, якая больш 2 гадоў жыве без дзеючага лідара.

**Бельгія.** Краіну ўзрушыла бойня на рынкавай плошчы горада Льеж, дзе 32-гадовы, ранней судзімы эмігрант перад калляднымі святамі забіў 6 чалавек, болей сотні параніў і забіў сябе.

**Казахстан.** Падчас мітынгу пратэсту ў г. Жанаозен звольненых работнікаў нафтавай кампаніі паліцыяй было забіта больш 10 чалавек, сотні паранены, уключаючы паліцыю.

**Чэхія.** Міністр фінансаў Міраслаў Калоўсек заплаціў штраф тысячу крон за публічную зняважу аднаго з пікетчыкаў, пратэставаўшых супраць палітыкі ўлад ля парламента.

**Куба.** Састарэлы экслідар краіны Фідэль Кастра трапіў у Кнігу рэкордаў Гінеса, як дзеяч, якога найболей у свеце (638 спроб) збіраліся забіць у асноўным па ініцыятывах ЦРУ.

# Тарыфная стаўка першага разраду 1 студзеня павышана да 200 тыс. рублёў



■ **Марына Носава, БелаПАН.**

**1 студзеня 2012 года тарыфная стаўка першага разраду павышаецца са 151 тыс. да 200 тыс. рублёў або на 32,5%.**

Як паведаміла прэс-служба прэзідэнта, Аляксандр Лукашэнка ўзгадніў пастанову Савета міністраў Беларусі «Аб устанаўленні памеру тарыфнай стаўкі першага разраду для аплаты працы работнікаў бюджэтных арганізацый і іншых арганізацый, якія атрымліваюць субсідыі, работнікі якіх прыраўнаваныя па аплаце працы да работнікаў бюджэтных арганізацый».

Таксама ўстаноўлены для работнікаў, якія тарыфікуюцца 1—27 разрадамі, карэктуемыя каэфіцыенты да тарыфных ставак (акладаў) у памерах 3,72—0,92.

Гэта дазволіць павысіць узровень заработнай платы работнікаў бюджэтных арганізацый у сярэднім на 19,4%, зазначыла прэс-служба.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** У самым багатым горадзе РБ 52 % сем'яў маюць сярэднедушавы даход 1,2 млн. рублёў у месяц, але праядаецца ўсё, выпадае адкласці не болей 10 USD штомесяц.

**Гродна.** З-за незавершанага галоўнага ўваходу адклалі адкрыццё абноўленага комплекса буйнейшага ў РБ заапарка, але здалі дом юнатаў, на чарзе заамагазін, 2 кафэ для гасцей.

**Мінск.** Кіраўнік дзяржавы не выказаў спачуванне чэхам у сувязі са смерцю іх былога прэзідэнта Вацлава Гавела, словы падтрымкі былі выказаны вялікаму лідару Кім Чэн Ыну.

**Мазыр.** Да засмучэння работнікаў "Мазырсолі" урад РБ упершыню абавязаў іх прадпрыемства са свайго прыбытку летась пералічыць 5 млрд. рублёў у фонд нацразвіцця.

**Брэст.** Напрыканцы года паблізу пункту пропуску "Варшаўскі мост" адкрыўся самы буйны ў РБ гандлёвы цэнтр сеткі "Еўраопт" плошчай 4700 кв. метраў з мясным цэхам.

**Мінск**. А. Лукашэнка дапускае, што пасля зыходу з пасады, вокны яго хаты могуць закідаць палкамі, пацвердзіў, што летась ён асабіста кіраваў жорсткім разгонам плошчы.

**Крупкі.** Мінскі абласны суд падтрымаў раённы суд, які апраўдаў 3-іх жыхароў райцэнтра, неабгрунтавана затрыманых восенню, з прымяненнем грубай сілы супрацоўнікамі міліцыі.

**Мінск.** Каля будынка КДБ у цэнтры сталіцы раздзетыя актывісткі руху Femen з Украіны правялі акцыю да гадавіны падзей на плошчы і змаглі ўцячы ад супрацоўнікаў міліцыі.

**Ліда.** Кіраўнік Гродзеншчыны С. Шапіра так і не змог захаваць на пасадзе галоўнага ўрача мясцовай ЦРБ Алега Ціса, якога паўторна прымусіла сысці праверка Генпракуратуры.

**Рагачоў.** Каля 7 гадзін раніцы на дарозе на Гомель прыйшлося шпіталізаваць траіх грамадзян Украіны, калі кіроўца мікрааўтобуса заснуў за рулём, выехаў на чужую паласу.

**Мінск.** Як паведаміў мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч, у Беларусі хутка пачне вяшчанне па беларуску "Радыё Марыя" (слухаюць 53 краіны свету і РФ) на працягу 24 гадз. у суткі.

**Мядзель.** У вёсцы Будслаў зарэзалі 25-гадовую дзяўчынуаграному, па размеркаванні пасля сельгасакадэміі ў Горках яна працавала на прадпрыемстве ў суседнім Ілаве.

**Гродна.** Ноччу ў горадзе п'яны 22-гадовы кіроўца збіў светлафор, сведка таксіст ехаў за ім 5 км, каб выпіўка не нарабіў на дарозе новай бяды, пакуль яго не затрымала ДАІ.

**Мінск.** Старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька прызнаўся, што вельмі цяжка сярод разумных, інтэлігентных людзей, акцёраў знайсці жадаючых працаваць на БТ.

**Барысаў.** Мясцовы ФК "БАТЭ" пакінуў старшы трэнер Вадзім Скрыпчанка, які стаў кіравацць ФК "Мінск", клуб перагледзеў працэс падрыхтоўкі каманды да новага сезона.

# 1 студзеня ў Беларусі будуць павялічаныя памеры некаторых дапамог

■ **БелаПАН.**

**1 студзеня 2012 года ў Беларусі будуць павялічаныя памеры некаторых дапамог. Гэта прадугледжана ўказам № 616 «Аб узмацненні сацыяльнай падтрымкі асобных катэгорый грамадзян», які 30 снежня падпісаў Аляксандр Лукашэнка.**

Як паведамляе прэс-служба прэзідэнта, прадугледжана павелічэнне з 1 студзеня дапамог:

- на дзяцей, якім больш як 3 гады і якія выхоўваюцца ў малазабяспечаных сем'ях, да 50% найбольшай велічыні бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва (БПМ);
- для догляду дзіцяінваліда да 18 гадоў да 100% БПМ;
- на дзяцей да 18 гадоў, інфікаваных вірусам імунадэфіцыту чалавека, да 70% БПМ;
- для догляду інваліда I групы або асобы, якая дасягнула 80-гадовага ўзросту, да 100% БПМ, двух і болей грамадзян згаданых катэгорый да 120% БПМ.

Прыняцце гэтага ўказу будзе спрыяць узмацненню сацыяльнай абароны найбольш уразлівых слаёў насельніцтва ў наяўнай эканамічнай сітуацыі, зазначаецца ў паведамленні прэс-службы.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Напрыканцы 2011 года на складах прадпрыемстваў вобласці знаходзілася без збыту непрададзеных гатовых тавараў на суму болей 1 трыльёна рублёў.

**Наваполацк.** Калектыў ААТ "Нафтан" парадавалі ўзгодненыя з РФ новыя ўмовы паставак расійскай нафты на завод на 2012-2015 гады без абмежаванняў і мытных пошлін.

**Орша.** Па маршруце на Мінск пачалі двойчы на дзень курсіраваць швейцарскія электрычкі "Штадлер", дарога займае 2 гадзіны 18 мінут, кошт білета амаль 12 тысяч.

**Верхнядзвінск.** На мясцовым масласырзаводзе на сучасным абсталяванні пачалі выпускаць новыя сыры "Ян сыраробʼ" прэміум-класа з рознымі прыправамі і арэхамі.

**Віцебск.** Мама і сястра асуджанага да расстрэлу У. Кавалёва накіравалі ў Камітэт ААН скаргу аб парушэнні права на жыццё і парушэнні прынцыпаў справядлівага суда.

**Мёры.** Генпракуратура РБ праінфармавала прэзідэнцкую Адміністрацыю аб тым, што памяшканні райбальніцы перапоўнены і не адпавядаюць сучасным патрабаванням.

**Дуброўна.** З-за адсутнасці сродкаў і даўгоў КУСГП "Прыдняпроўскі" будтрэсту № 18 з Оршы ў суме 5 млрд. рублёў ён спыніў будаўніцтва сучаснага жывёлаводчага комплекса.

**Докшыцы.** Услед за Оршай на нарадзе ў райцэнтры прэм'ер-міністр РБ М. Мясніковіч пацвердзіў, што калгасы павінны мадэрнізіраваць фермы пераважна за ўласныя сродкі.

**Расоны.** У жыхара Брэсцкай вобласці на дарозе Лепель-Полацк міліцыя затрымала 18 тон вінаграду, якія увезлі з Расіі без дакументаў аб праходжанні санітарнага кантролю.

**Орша.** Жыхары аграгарадка Коханава на сходзе запатрабавалі ад мясцовага філіяла "Віцебскаблтэлекам" не закрываць тут пункт калектыўнага доступу ў сетку Інтэрнет.

**Віцебск.** Начальнік калоніі "Віцьба-3" палкоўнік В. Агністыкаў пацвердзіў, што былы кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў ізаляваны ад іншых зняволеных тут.

**Браслаў.** На базе адпачынку нацпарка "Дрывяты" упершыню прайшоў раённы лазневы фестываль, які выйграла каманда РДК, летам аматары папарыцца тут зноў сустрэнуцца разам.

**Віцебск.** Сапраўдны ажыятаж назіраўся ў новым гарадскім буйным гандлёвым цэнтры "Электрасіла", дзе толькі 2 дні прадавалі бытавую электроніку са зніжкамі 50 %.

**Чашнікі.** Міліцыя адшукала і затрымала 31-гадовага прадпрымальніка, раней судзімага за крадзяжы, які скраў 3 цялят з ферм суседніх Бешанковіцкага і Лепельскага раёнаў.

**Віцебск.** Чыгуначны вакзал першым у Беларусі запусціў сучасную электронную сістэму біякустычнага адпужвання галасамі драпежных птушак, раней вельмі дапякалі вароны.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Кс. Віктар Місевіч, тэкст і фота.

# Маленькага Езуса ў спектаклі іграла дзяўчынка Сара

**Свята Божага Нараджэння прыпамінае нам пра міласэрнасць, спагаду і любоў. Езус нарадзіўся ў хляве, таму што ў людзей не хапіла любові, каб Яго прыняць, як Чалавека.**

На другі дзень Свята парафія Хрыста Валадара ў Бягомлі арганізавала дабрачынную акцыю ў мясцовым доме-інтэрнаце. Па запрашэнню прыехаў цэлы аўтобус барысаўскай моладзі. Хлопцы і дзяўчаты падрыхтавалі Батлейку для маленькіх гледачоў. Адметнасцю было тое, што Маленькага Езуса ў спектаклі іграла дзяўчынка Сара з барысаўскай парафіі, а Марыю і Юзафа – яе бацькі. Выхаванцы інтэрната з захапленнем глядзелі на касцюмы актораў і з удзячнасцю пляскалі ў далоні. Пасля Батлейкі ўсе ахвотныя мелі магчымасць прыняць удзел у гульнях і карагодах вакол прыгожай ялінкі.

Падарункі, якія атрымалі дзеці, былі падрыхтаваныя на сродкі вернікаў з бягомльскай і барысаўскай парафій. Разам з моладдзю ў Бягомль прыехаў а. Міхал Цвячкоўскі МІС, а таксама сёстры эўхарысткі: с. Тацццяна Гмыза і с. Наталля Раманчук. Завяршылася сустрэча супольнай малітвай і благаслаўленнем.











Дырэктар школы-інтэрнат у Бягомлі Валерый Пятровіч Міхайлоўскі ад імя дзяцей і педагагічнага калектыва выхавацеляў падзякаваў выступоўцам і запрасіў іх наведваць дзетак часцей.

Езус сваім нараджэннем падказвае нам: "Не бойся рабіць дабро! Чым больш радасці ты падорыш другому чалавеку, тым лепшы стане вакол цябе свет."

# Новы год – свята для ўсіх!

У нашым горадзе знаходзіцца Тэрытарыяльны цэнтар сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва (ТЦСАН), які наведваюць людзі з абмежаванымі магчымасцямі. Штогод гэтая група людзей прыходзіць на ўсе мерапрыемствы, якія ладзяцца ў нашым горадзе.

Гэтым разам 29 снежня людзі з абмежаванымі магчымасцямі дзённага наведвання ТЦСАН прыйшлі на Цэнтральны пляц, дзе праводзіўся парад Дзядоў Марозаў і Снягурак. Яны вадзілі карагоды, адгадвалі загадкі, чыталі вершы, спявалі песні. Настрой быў узнёслы, і лёгка было на душы, бо надыходзіць Новы 2012 год.

Па завяршэнні святочнага мерапрыемства людзі з абмежаванымі магчымасцямі зрабілі групавы здымак на фоне галоўнай навагодняй яліны горада і пажадалі ўсім шчасця і моцнага здароўя.

*Л.Я. Зеваліч, загадчык аддзялення ТЦСАН.*



■ Кастусь Шыталь

# Ксяндза Вячаслава Барка выклікалі ў фінансавую міліцыю

**Каталіцкі святар Вячаслаў Барок, які служыць у Расонах, быў выкліканы 29 снежня ў дэпартамент фінансавых расследванняў у Наваполацку.**

Як паведаміў ксёндз Вячаслаў, фінансавая міліцыя праводзіць праверку паводле заявы, якую нібыта напісаў невядомы чалавек. Ананім сцвярджае, што святар незаконна займаецца турыстычным бізнэсам і зарабіў на гэтым ад 350.000 да 1.000.000 еўра.

Ксёндз Вячаслаў Барок удзельнічае ў правядзенні пілігрымак у хрысціянскія святыні Еўропы і Палестыны. Удзел у пілігрымках прынялі ўжо некалькі тысяч беларусаў. Экскурсіі праводзяцца заўсёды на беларускай мове, пакідаюць станоўчыя водгукі ва ўдзельнікаў. Арганізатарам пілігрымак з'яўляецца каталіцкая парафія ў Расонах, падкрэслівае святар.

*«Я не магу прагназаваць, які працяг будзе мець гэтая справа. Лепей было б, каб адпаведныя органы зацікавіліся не мною, а знайшлі таго правакатара, які напісаў заяву»,* – кажа ксёндз Вячаслаў.


Кс. Вячаслаў Барок.

# Рэйкавыя аўтобусы пачнуць курсіраваць па чыгунцы ўжо вясной

**Новыя цягнікі назначаць на ўчасткі з нізкім узроўнем пасажырапатоку.**

**Аднавагонныя дызель-цягнікі (рэйкавыя аўтобусы) пачнуць курсіраваць па Беларускай чыгунцы вясной 2012 года, паведамілі ў прэсслужбе БЧ.Новыя цягнікі назначаць на ўчасткі з нізкім узроўнем пасажырапатоку.**

Новыя цягнікі назначаць на ўчасткі з нізкім узроўнем пасажырапатоку.

Іх вытворчасць — сумесны праект ААТ «Кіруючая кампанія холдынга «Белкамунмаш» і польскай холдынгавай кампаніі PESA Bydgoszcz SA пры ўдзеле Мінскага вагонарамонтнага завода. Ініцыятарам праекта выступіла Беларуская чыгунка.

Айчынныя рэйкавыя аўтобусы будуць валодаць не толькі высокімі тэхнічнымі характарыстыкамі, але і адпавядаць сучасным патрабаванням камфорту і якасці.

Да паслуг пасажыраў прадаставяць зручны салон з мяккімі крэсламі, кандыцыянерам і туалетным комплексам вакуумнага тыпу.

Выраб двух аднавагонных дызель-цягнікоў ужо завяршаецца. У бліжэйшы час яны паступяць на Беларускую чыгунку для праведзення выпрабаванняў. Плануецца, што вясной 2012 года пачнецца іх эксплуатацыя з пасажырамі.

Аднавагонны дызель-цягнік ДЦ-1 прызначаны для перавозкі пасажыраў у прыгарадных напрамках на неэлектрыфікаваных чыгуначных пуцях Беларускай чыгункі з шырынёй каляіны 1520 мм. Даўжыня цягніка складае 27,5 м, колькасць месц, прадугледжаных для сядзення — 91, агульная ўмяшчальнасць — 171 чалавек. Эксплуатацыйная хуткасць руху — 120 км/гадз. Далёкасць ходу на адной запраўцы паліва — 1000 км. Разліковы тэрмін службы цягніка– да 40 гадоў.

*БелТА*



# Сусвет упрыгожыў астэроід «Vitebsk»

■ **Яна Ільіна**

**Міжнародны астранамічны саюз зарэгістраваў новы астэроід, які атрымаў назву «Vitebsk». Гэта нябеснае цела пад нумарам 264061 адкрыў яшчэ два з паловай гады таму ў сваёй аматарскай прыватнай абсерваторыі віцебскі астраномаматар Віталь Неўскі. Такі вось цудоўны касмічны падарунак зрабіў навуковец свайму роднаму гораду на Новы год**

Астэроід «Vitebsk» мае дыяметр каля 5 км. У момант адкрыцця ён знаходзіўся ў 354 млн. км ад Зямлі. Рухаецца па кругавой арбіце, адзін абарот вакол Сонца здзяйсняе за шэсць з невялікім гадоў.

Зараз у Сусвеце ёсць тры астэроіды з назвамі беларускіх гарадоў. Гэта "Minsk" і "Brest", якія былі зарэгістраваны яшчэ за савецкім часам.

Нагадаем, што яшчэ раней Віталь Неўскі адкрыў малую планету, якую назваў у гонар свайго настаўніка, дацэнта кафедры агульнай фізікі і астраноміі ВДУ імя П.М. Машэрава Уладзіміра Голубева.



# Два жорсткіх забойствы і замах на трэцяе зарэгістраваныя ў навагоднія святы

■ **Сяржук Серабро**

**Не ўсе жыхары Віцебскай вобласці перажылі навагоднія імпрэзы. Дзве сваркі — у Чашніках і Оршы — скончыліся смерцямі, у Докшыцах ахвяра выжыла.**

У Чашніках 49-гадовы мужчына ў сварцы да смерці забіў сваю 46-гадовую жонку палкай. Як паказалі вынікі гісталагічнага даследавання, жанчына памерла ад траўматычнага шоку.

Забойствам скончылася папойка ў Оршы — 60-гадовы пенсіянер нанёс свайму 33-гадоваму госцю нажавыя раненні шыі і брушнай поласці. У лякарні пацярпелы памёр.

Невядома, што не падзяліла маладая пара з Докшыц у апошні дзень адыходзячага года, але 21-гадовая жанчына некалькі разоў стукнула нажом свайго 30-гадовага сужыцеля ў грудзі і шыю. Мужчына шпіталяваны.

Як паведамляе прэсслужба МУС, усе падазраваныя затрыманы.

# Чароўнае зубраня пераехала ў Віцебск з Магілёва

■ **Сяржук Серабро**

**У Віцебскім заапарку з'явіўся новы жыхар, ды не абы-які — адзін з сімвалаў Беларусі. 29 снежня ў Віцебск прывезлі сямімесячнае зубраня, якое набылі ў Магілёўскім заасадзе на ахвяраванні гараджанаў.**

Пушчанскі волат, які пасяліўся ў Віцебску, пакуль не мае імя. Дырэктарка заапарку Ірына Арлова мяркуе, што мянушку могуць падказаць паводзіны жывёлы, або яе прыдумаюць наведвальнікі.

Зубраня змясцілі ў вальер плошчай 400 кв. м у старым заапарку. У Білева, пакуль там не з'явіцца належных пабудоў і абсталявання, жывёлы пераязджаць не будуць.

У прыродзе цяля зубра не пакідае маці на працягу двух гадоў, хаця пасля першага года ўжо корміцца самастойна. Першую раслінную ежу зубраня пачынае ўжываць ва ўзросце трох тыдняў. Палавой спеласці зубры дасягаюць праз шэсць гадоў.



# Пачынае дзейнічаць новы парадак утылізацыі кінутых аўтамабіляў

**Набыў моц указ прэзідэнта ад 9 жніўня 2011 года № 348 «Аб мерах па арганізацыі збору, захоўвання транспартных сродкаў, якія не эксплуатуюцца, і іх наступнай утылізацыі».**

Як паведамлялася раней, указам прадугледжваюцца крытэрыі, згодна з якімі транспартны сродак падлягае ўтылізацыі; парадак выяўлення такіх транспартных сродкаў і ўстанаўлення іх уласнікаў; стымуляванне ці прымус уласніка ўтылізаваць кінуты транспартны сродак; арганізацыя збору транспартных сродкаў, якія падлягаюць утылізацыі.

Функцыі па выяўленні машын, якія падлягаюць утылізацыі і ўстанаўленні іх уласнікаў, ускладаюцца на мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы, у падпарадкаванні якіх знаходзяцца землі агульнага карыстання населеных пунктаў, прысядзібныя тэрыторыі, двары і прылеглыя тэрыторыі. Прычым гэта не выключае дэлегавання паўнамоцтваў ці стварэння спецыялізаванай арганізацыі, якая будзе выконваць задачы, звязаныя з кінутымі аўто.

Паводле інфармацыі аблвыканкамаў, утылізацыі падлягаюць прыкладна 4,5 тысячы транспартных сродкаў, якія выйшлі са строю (якія не эксплуатуюцца) і захоўваюцца на землях агульнага карыстання населеных пунктаў, прысядзібных тэрыторыях, дварах і прылеглых тэрыторыях.

Указам прадугледжана, што ўласніку транспартнага сродку накіроўваецца паведамленне пра неабходнасць прыбраць аўтамабіль, а таксама паведамляецца пра магчымасць прымусовага перамяшчэння і змяшчэння яго на ахоўную стаянку. У выпадку непрынясцця ўласнікам мер па перамяшчэнні транспартнага сродку на стаянку на працягу месяца з дня атрымання паведамлення складаецца акт і ажыццяўляецца прымусовае перамяшчэнне машыны на ахоўную стаянку, пра што неадкладна інфармуецца яе ўласнік. На працягу трох месяцаў ён мае права запатрабаваць вярнуць тэхніку, пры гэтым павінен пакрыць затраты, звязаныя з прымусовым перамяшчэннем і захоўваннем транспартнага сродку. Ён таксама абавязаны пакрыць гэтыя затраты ў выпадку, калі ім такога патрабавання ва ўстаноўлены тэрмін не заяўлена.

Пры адсутнасці на працягу трох месяцаў ад уласніка патрабавання аб вяртанні транспартнага сродку мясцовы выканаўчы і распарадчы орган накіроўвае ў суд заяву аб прызнанні транспарту безгаспадарным і перадачы ва ўласнасць адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, а таксама аб пакрыцці затрат, звязаных з прымусовым перамяшчэннем і захоўваннем кінутага транспартнага сродку. Пры гэтым прапаноўваецца вызваліць мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы ад дзяржаўнай пошліны за падачу ў суд такіх заяў.

Пры немагчымасці ўстанаўлення ўласнікаў кінутых машын кампетэнтны орган ажыццяўляе прымусовую эвакуацыю такіх транспартных сродкаў і захоўванне іх на ахоўных стаянках, забяспечвае набыццё права ўласнасці на іх ва ўстаноўленым заканадаўчымі актамі парадку і наступную іх утылізацыю. Даходы ад утылізацыі залічваюцца ў адпаведны бюджэт кампетэнтнага органа

*БелаПАН.*

# Тапанімічная камісія Беларусі прапануе ўжываць літару «Ё» ў геаграфічных назвах (у расійскай мове)

**Тапанімічная камісія Беларусі прапануе ўжываць літару «Ё» ў геаграфічных назвах на расійскай мове.**

На праведзеным пашыраным пасяджэнні Тапанімічнай камісіі пры Савеце Міністраў Беларусі абмяркоўвалася праблематыка стандартызацыі назваў геаграфічных аб'ектаў краіны і свету. Размова ішла аб спрэчных момантах пры перадачы тапонімаў з адной мовы на іншую, напісанні назваў геаграфічных аб'ектаў свету, аб праблеме тэрмінаў і паняццяў у працэсе стандартызацыі і назваў новых геаграфічных аб'ектаў.

Камісія адзначыла, што замена літары «Ё» літарай «Е» выклікае цяжкасці пры перадачы тапонімаў на беларускую мову, што прыводзіць да шэрагу аўтарскіх недакладнасцей і як вынік з'яўляюцца розначытанні ў існуючых назвах, якія можна сустрэць у розных інфармацыйных крыніцах.

Таму прапанова пісаць літару «Ё» ў назвах геаграфічных аб'ектаў на расійскай мове была падтрымана членамі Тапанімічнай камісіі аднагалосна.

У пасяджэнні камісіі таксама прынялі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства інфармацыі, РУП «Белкартаграфія», установы «Дзяржкартгеацэнтр».

*БелТА*

# Увага – узрост

■ А.І. Гігола,
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.*

**За 2011 год у адносінах састарэлых грамадзян (ва ўзросце больш 60 гадоў) у горадзе і раёне здзейснена 38 злачынстваў, з іх самым распаўсюджаным відам злачынстваў з'яўляюцца крадзяжы – 28. Аб'ектамі злачынных замахаў галоўным чынам становяцца грошы, хатняя птушка, прадукты харчавання, прамысловыя тавары.**

Вялікая колькасць крадзяжоў здзяйсняецца шляхам вольнага доступу: бестурботнасць пацярпелых у пытанні захаванасці сваёй маёмасці становіцца адной з прычынаў здзяйснення злачынства.

Так, 21 студзеня 2011 года неўсталяваны злачынец у калідоры Глыбоцкай паліклінікі шляхам вольнага доступу выкраў шапку, якая ляжала на крэсле, пальчаткі і куртку, у якой знаходзіўся кашалёк з грашыма.

У ноч на 29 сакавіка 2011 года неўсталяваны злачынец шляхам вольнага доступу з хлева гр-кі Б. у в.Луцк-Масарскі выкраў дзвюх коз.

22.05.2011 г. каля 13.30 гр-н Л., знаходзячыся ў хаце па вул. Маскоўскай г. Глыбокае, шляхам вольнага доступу выкраў ровар з веранды.

З 16 па 30 ліпеня 2011 г. неўсталяваны злачынец у в.Квачы шляхам вольнага доступу выкраў з хлева два бітоны.

У адпаведнасці з патрабаваннем МУС Рэспублікі Беларусь у перыяд часу з 23 па 27 снежня 2011 года на тэрыторыі рэспублікі і ў Віцебскай вобласці праводзіліся адмысловыя комплексныя мерапрыемствы «Увага-ўзрост», у мэтах павышэння ўзроўню бяспекі пажылых людзей, забеспячэнні асабістай і маёмаснай бяспекі дадзенай катэгорыі грамадзян.

На тэрыторыі Глыбоцкага раёна пражывае 9654 грамадзяніна старэй 60 гадоў, з іх адзінокіх 1265, адзінокапражываючых 6323, таму не лішняе яшчэ раз нагадаць пра меры асабістай бяспекі:

- не ўпускайце ў кватэру незнаёмых людзей, гэтым вы пазбегнеце непрыемнасці быць падвергнутым нападу на ваша жыллё, асабліва папярэдзьце пра гэта дзяцей, пакінутых без нагляду сталых,
- пакідаючы ключы ў патаемным (як вам здаецца) месцы, адкрытыя дзверы на балконе ці фортачку, асабістыя транспарт у двары на ноч без нагляду, вы ствараеце ўмовы для замаху на вашу маёмасць,
- умацуйце ўваходныя дзверы вашай кватэры, лепш, калі іх будзе двое, адны з якіх адкрываюцца вонкі,
- усталёўка ў пад'ездзе вашага дома металічных дзвярэй з перагаворнай прыладай дазволіць не толькі стварыць дадатковую перашкоду злачынцу, але і абмяжуе доступ непажаданых асобаў.



## Віншаванкі

**Прашу павіншаваць ад майго імя Беларусь, маю любімую Бацькаўшчыну, па якой я так часта сумую**

*з Калядамі і Новым годам!*

Шчасця, здароўя, плёну ды ўсякае памыснасці ў жыцці!

***Эдвард Бароўскі,***
*прафесар, г. Гданьск, нарадзіўся ў 1928 г. у Радзюках (Шаркоўшчынскі р-н)*

### Крысціну Вітольдаўну Мацюшонак

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Всегда и грустно, и приятно
Свой день рожденья отмечать:
Уходят годы безвозвратно,
Их только успевай считать.
Но время, будто бы теченье,
Ничто не в силах удержать.
И Вам сегодня в день рожденья
Хотим мы счастья пожелать,
Удачи, радости, успеха,
Здоровой быть, беды не знать,
Преграды в жизни и помехи
Легко и быстро устранять,
Побольше смеха, меньше грусти -
И никогда не унывать.



*Калектыў «ВГ»*

### Надзею Скрабатун

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Желаем в День рожденья восклицаний,
подарков и цветов, изысканности фраз!
В любви и дружбе искренних признаний
И лучиков тепла во взгляде милых глаз!
Пусть этот день запомнится навечно
И будет непохож на тысячи других!
Пусть он пройдет приятно и беспечно,
Успехов в будущем и радостей больших!



*Калектыў "ВГ"*

### Надзею Скрабатун

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Ты сегодня на год повзрослела
К зеркалу тревожно не спеши.
Ты за этот год похорошела-
Веселись и смейся от души.
Позабудь обиды и тревоги,
Улыбнись волшебно и светло.
В дождь и стужу, в зной и непогоду
Я желаю, чтоб тебе везло.
Будь счастливой, ласковой и нежной,
Впереди - удачи два крыла.
Будь такой, чтоб жизнь тебя любила,
Чтоб не зря на свете прожила.



*Мама, тата, дачка Настасся.*

### Надзею Скрабатун

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Пусть звезды светятся в глазах твоих,
Пусть счастье, как шампанское, искрится,
Пусть слезы никогда не блещут в них,
И в сердце пусть печаль не постучится.
Пусть этот день, как песня соловья,
Перечеркнет всех хмурых дней ненастье.
Пусть жизнь твоя, как майская заря,
Приносит каждый день в ладонях счастье!

*Сястра Наталля*

### Крысціну Вітольдаўну Мацюшонак

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Пусть будет жизнь полна веселья, смеха,
Пусть в сердце вечно молодость живёт.
Желаем мы здоровья и успеха
На много-много лет вперёд!
И сколько б лет ни стукнуло тебе,
Поверь, не стоит их бояться.
Желаем счастья светлого в судьбе,
Твои года - твоё богатство!



*Надзея Скрабатун.*

# Белтэлекам» пашырыў інтэрнэт-шлюз Беларусі да 200 Гбіт/с

**Інтэрнэт-шлюз Беларусі дасягнуў 200 Гбіт/с. Нацыянальны аператар сувязі «Белтэлекам» сумесна з латвійскай кампаніяй Lattelecom правёў работы па пашырэнні знешняга інтэрнэт-шлюза Беларусі ў заходнім напрамку на 20 Гбіт/с.**

Як паведамілі БелаПАН у «Белтэлекаме», кампанія Lattelecom з'яўляецца лідарам у сферы аказання паслуг электроннай сувязі ў Латвіі, прапануючы рашэнні электроннай сувязі для дома, малых і сярэдніх прадпрыемстваў, дзяржарганізацый і органаў самакіравання, а таксама буйных карпаратыўных кліентаў.

Як удакладнілі ў «Белтэлекаме», на гэты момант сумарная ёмістасць шлюза складае 200 Гбіт/с: 50 Гбіт/с для доступу ў заходнім напрамку, 150 Гбіт/с — у напрамку Расіі.

Папярэдняе пашырэнне шлюза адбылося 21 снежня 2011 года сумесна з расійскімі тэлекамунікацыйнымі аператарамі ЗАТ «РэтнНэт» і ААТ «МегаФон».

«Белтэлекам» створаны 3 ліпеня 1995 года. З'яўляецца першасным інтэрнэт-правайдарам у Беларусі, ажыццяўляе перадачу звестак па камутаванай сетцы агульнага карыстання, забяспечвае доступ да міжнародных і беларускіх рэсурсаў інтэрнэту, перадае ў карыстанне міжнародныя лічбавыя плыні і каналы практычна любой ёмістасці, забяспечвае роўныя ўмовы працы аператараў мабільнай сувязі Беларусі шляхам падключэння іх да міжнароднай станцыі, дае міжгародні і міжнародны роўмінг.

*Аляксей Арэшка, БелаПАН*

## МНС інфармуе на 03.01.2012 года:

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 12;
Гібель людзей – 3, з іх 0 дзіцяці;
Урон – 69,4 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 0;
Гібель людзей – 0, з іх дзяцей няма;
Урон – 0 руб.

# Прыродным тэрыторыям, якія асоба ахоўваюцца, у Віцебскай вобласці ў 2012 годзе прыйдзецца пацвердзіць свой статус

**Масавае абследванне на пацверджанне статусу асоба ахоўных прыродных тэрыторый (ААПТ) мясцовага значэння пачнецца ў 2012 годзе ў Віцебскай вобласці, паведамілі карэспандэнту БелТА ў Віцебскім абласным камітэце прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.**

Для пацверджання знаходжання, а таксама выяўлення новых відаў жывёл і раслін, якія патрабуюць аховы, у 2011 годзе па замове абласнога камітэта прыродных рэсурсаў навукоўцамі Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта ім. П.Машэрава былі абследаваны ААПТ у пяці раёнах вобласці: Верхнядзвінскім, Віцебскім, Гарадоцкім, Сенненскім і Ушацкім. Пасля атрымання вынікаў гэтай працы будзе вырашана пытанне па пацверджанні статусу або пераўтварэнню ААПТ, а таксама складзена навуковае і тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне заказнікаў і помнікаў прыроды мясцовага значэння.

Абласны камітэт прыродных рэсурсаў планує ў 2012 годзе прадоўжыць гэту працу з прыцягненнем навукоўцаў віцебскага ўніверсітэта.

Як растлумачылі ў камітэце, абследванне праводзіцца ў адпаведнасці з Дзяржаўнай праграмай развіцця сістэмы асоба ахоўных прыродных тэрыторый Рэспублікі Беларусь на 2008 – 2014 гады. Акрамя таго, падчас аналізу ахоўных дакументаў па ААПТ супрацоўнікамі абласнога камітэта выяўлены парушэнні патрабаванняў Закона Рэспублікі Беларусь "Пра асоба ахоўныя прыродныя тэрыторыі", у прыватнасці рашэння некаторых райвыканкамаў пра аб'яву ці пераўтварэнні ААПТ не адпавядаюць заканадаўству.

З мэтай захавання ўнікальных прыродных аб'ектаў на тэрыторыі Віцебскай вобласці маецца адзін запаведнік – «Бярэзінскі біясферны запаведнік» плошчай 62,4 тыс. га, два нацыянальныя паркі – "Браслаўскія азёры" пл. 71,5 тыс. га і "Нарачанскі" (на тэрыторыі Пастаўскага раёна ён займае пл. 1 тыс. га), 22 заказнікі рэспубліканскага значэння (166 тыс. га), 76 помнікаў рэспубліканскага значэння (570 га), 79 заказнікаў і 143 помнікі мясцовага значэння. Агульная плошча асоба ахоўных тэрыторый Віцебскай вобласці складае 361, 4 тыс. га, што займае каля 9 % ад плошчы вобласці.

*Дыяна Паліла - БЕЛТА*

# На расійскіх браканьераў могуць завесці крымінальную справу

■ Сяржук Серабро

**Дваіх браканьераў з Расіі злавілі на возеры Езярышча ў Гарадоцкім раёне. Двое беспрацоўных расейцаў лавілі рыбу забароненымі прыладамі лоўлі – стаўнымі сеткамі.**

Інспектары канфіскавалі ў браканьераў тры сеткі агульнай даўжынёй 192 м і ўлоў — 514 асобінаў рыб розных відаў агульнай вагой 12 кілаграмаў. Шкода, нанесеная расейцамі беларускай фауне, ацэненая ў 3 мільёны рублёў.

Як паведамляе прэс-служба Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету, Гарадоцкім РАУС разглядаецца пытанне пра ўзбуджэнне крымінальнай справы па частцы 2 артыкулы 281 КК «Незаконная здабыча рыбы ці іншых водных жывёл». Максімальнае пакаранне, якое пагражае браканьерам — да трох гадоў пазбаўлення волі.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

**9 – 15 студзеня 2012 г.**



## ПАНЯДЗЕЛАК, 9 студзеня



**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Доброе утро, Беларусь!
**07.00, 08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.10** Новости.
**07.30, 08.30** Деловая жизнь.
**09.10** В центре внимания.
**10.05** Комедия **"Ты сверху, я снизу"** (Россия).
**12.10** Семейная комедия **"Месть пушистых"** (США).
**13.45 Мультфильм.**
**14.00** Док.фильм «Звездная жизнь» (Украина). Фильм «Звездные вдовы».
**15.10, 19.15** Новости региона.
**15.25** Культурные люди.
**15.55** К тёще на блины.
**16.25** Телефильм АТН «Ваву Сир. Сказка под Рождество».
**16.55 "Широка река"**
**17.50** Детективная мелодрама **"Тонкая грань"** (Россия).
**18.45, 00.50** Зона Х.
**19.30** Арена.
**19.55** Форум.
**21.00** Панорама.
**21.40, 01.00** День спорта.
**21.50** Командировка.
**22.05** «Песня года-2011».
**23.30** Криминальный боевик **"Напрямую"**



**06.00, 09.00** Наши новости
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Понять. Простить».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** Мультфильм.
**11.30** Марат Башаров, Екатерина Вилкова в комедии **"На крючке"**.
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Хочу знать»
**13.40** «Контрольная закупка».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10 "Обручальное кольцо"**.
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15** Андрей Миронов в комедии **"Невероятные приключения итальянцев в России"**.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Оливье по-советски или испытание Новым годом».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05 "Не плачь, Аргентина!"**.
**22.00** Премьера. **"Тюдоры"**. Многосерийный фильм.
**23.05** «Судьба на выбор».
**00.05** «След».
**00.45-01.10** Ночные новости.



**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Мелодраматический сериал **"Жаркий лед"**(Россия-Украина).
**09.50** Ешь и худей.
**10.20** Навіны надвор'я.
**10.50** Женсовет.
**11.20** Кинопробы.
**11.50** Школа ремонта.
**12.45** Семейная комедия **"Добро пожаловать, или Соседям вход воспрещен"**(США).
**14.25 "Маргоша"**
**16.10** Внеклассный час.
**16.30** Нескучный глобус.
**16.55** Под грифом «Известные».
**17.25 Премьера. Комедийный сериал "Гуманоиды в Королеве"** (Россия). 1-я серия.
**17.55** Мелодраматический сериал **"Жаркий лед"**(Россия-Украина).
**18.55** Хоккей. КХЛ. СКА (Санкт-Петербург) – Витязь (Чехов).
**21.00** Калыханка.
**21.15** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Белорусское времечко.
**22.30** Комедийный сериал **"Гуманоиды в Королеве"** (Россия). 1-я серия.
**23.00** Овертайм.
**23.25 "Маргоша"**



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.10** «Зеленый огурец. Полезная передача».
**10.30** «24 часа».
**10.40** ПРЕМЬЕРА: «Семейные драмы».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Горячий лед».
**13.10** «Дальние родственники».
**13.30** «24 часа».
**13.50 "Студенты"**. Юмористический сериал.
**14.45** «Кино»: **Луис Гузман, Джон Легуизамо, Деб"С ПРАЗДНИКАМИ НИЧТО НЕ СРАВНИТСЯ"**. США, 2008 г.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 "Огонь любви"**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.25** «Кинопонедельник»: **«ГАРПАСТУМ»**. Россия, 2005 г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Тайны мира с Анной Чапман».
**23.50** «Профессиональный бокс».



**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:40** Зона «Свабоды»
**8:10 "Таямніца крэпасці шыфраў"**: 8 серыя
**8:55 "Тутэйшыя"**, тэлеспектакль: 1 серыя
**9:45** Прэс-экспрэс
**10:00 "Агнём і мячом"**: 4 серыя
**10:55** ПраСвет
**11:20** «Таямніцы Ватыкану» , дакументальны серыял: 4 серыя
**11:45** Эксперт
**12:20** Зона «Свабоды»
**12:50 "Тутэйшыя"**, тэлеспектакль: 1 серыя
**13:40** Прэс-экспрэс
**14:00 "Ноч святога Мікалая"**, маст. фільм, рэж. Януш Кандрацюк 2000 г., Польшча
**14:55** Моўнік
**15:05** «Таямніцы Ватыкану», дакументальны серыял: 4 серыя
**15:35** Эксперт
**16:05 "Агнём і мячом"**: 4 серыя
**15:00 "Таямніца Сагалі"**: 13 серыя
**17:25** Зона «Свабоды»
**18:00** Аб'ектыў
**18:05 "Агнём і мячом"**: 4 серыя
**19:00** «Зямля ў палоне», дак. фільм, рэж. Людміла Палеская, 2011 г., Беларусь
**19:30** Аб'ектыў
**19:40** Гарачы каментар
**19:50** Калыханка для самых маленькіх
**20:00** Еўропа сёння
**20:25** Вагон
**20:30** «Мільянер з лесу» , дак. фільм
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Прыватная калекцыя
**22:00** Фільматэка майстроў: **"Русалка"**, 2007 г., Расея
**23:40** Аб'ектыў
**0:05** Гарачы каментар

